# ВОЛЬНАЯ ДУМКА

**Грамадзка-навуковая і літэратурна-мастацкая часопісь Беларускага Паступовага Студэнства**

## Зьмест.




ВІЛЬНЯ ○ ○ ○ ○ ○ ○ ○ ○ ○ 1929 ГОД

# ВОЛЬНАЯ ДУМКА

Грамадзка-навуковая і літэратурна-мастацкая часопісь Беларускага Паступовага Студэнства

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Гданская № 1.

Падпіска квартальна з перас. 2 40 гр.
Цана асобнага нумару . . . 80 „

№ 2 | ВІЛЬНЯ, 30 СЬНЕЖНЯ 1929 | ГОД I

## НАШ ШЛЯХ — ШЛЯХ ПРАЦОЎНЫХ

Калі мы прыгледзімся да сучаснага ладу, то ўбачым, што людзкасьць не зьяўляецца аднолькавай нейкай масай, але падзелена на цэлы рад грамадзкіх групаў, як дзяржавы, партыі, арганізацыі, клясы і г. д. Групы гэтыя ніколі не знаходзяцца у „сталым“ палажэньні. Яны або вядуць барацьбу паміж сабою, або знаходзячы супольныя інтарэсы, злучаюцца для вядзеньня барьцьбы з іншымі. У аснове гэтай барацьбы рашаючую ролю адыгрываюць дзьве сілы, якія ўяўляюць сабою дзьве асноўныя групы сучаснага грамадзянства. Яны не ўстаноўлены нейкім розумам, ідэямі ці нейкай найвышэйшай сілай, як аб гэтым шмат хто з нашых „інтэлігэнтаў“ думае, а вытварам сучасных эканамічных адносінаў. Адна з гэтых групаў — меншасьць — (нялічачы аднэй шостай зямной кулі) трымае у сваіх руках усе сродкі вытворчасьці, як машыны, фабрыкі, мае фінансы, навуку, — другая — пазбаўлена ўсяго гэтага і мае толькі свае працоўныя рукі, вядзе барацьбу за такі грамадзкі лад, у якім усе сродкі вытворчасьці будуць уласнасьцю тых, хто на іх працуе.

Але ў грамадзтве існуюць ня толькі гэтыя дзьве аснаўныя клясы. Паміж імі знаходзяцца т. зв. праслойкі клясаў, якія зьяўляюцца або астаткамі ранейшых формаў грамадзтва (сялянства, дробныя рамесьнікі), або вытварам сучасных эканамічных адносінаў (інтэлігэнцыя, дробная буржуазія) і якія ня адыгрываюць самастойнае ролі ў гісторыі. Яны прымушаны станавіцца або на бок аднэй з асноўных змагаючыхся клясаў, або на бок другой.

Зусім зразумела, што колькі-б ня крычалі нашыя паважаныя інтэлігэнты аб тым, што яны могуць выканаць нейкую гістарычную місію — гэта ёсьць не што іншье, як крык ідэалёгаў тых праслойкаў, якія не адыгралі і не адыграюць ніколі самастойнай ролі ў гісторыі, а аб'ектыўна льюць ваду на млын пануючай клясы. Кожная з гэтых клясаў у працэсе сваей барацьбы на падставе канкрэтных гістарычных фактаў выпрацоўвае сваю ідэалёгію і тактыку, бо кожны чалавек, кожная грамадзкая арганізацыя, ці партыя толькі тады будзе жыцьцездольная, толькі тады зможа прыйсьці да зьдзейсьненьня сваіх ідэалаў, калі вызначыць прaвільны, ясны і дакладны шлях свае дзеяльнасьці на падставе законаў гістарычных адносінаў і вынікаючай адсюль барацьбы клясаў.

Узяць сябе ў пэўныя рамкі, загартаваць, здысцыплінаваць на грунце барацьбы, умець даць рашучы адпор ворагу, гэта зьяўляецца падставай усялякай дзеяльнасьці.

І мы, студэнская паступовая монадзь мусім сцэмантаваць сябе і адкрыта сказаць, што ідзем разам з тэй клясай, якой належыць будучыня.

Сучасны грамадзкі лад, які праз буржуазную рэвалюцыю, прышоў на зьмену ранейшаму фэодальнаму ладу, мае ў сабе новыя зьявы і адносіны, якія вырастаюць з старых і у рэзультаце прывядуць да хуткай перабудовы.

Перабудова гэтая зьяўляецца жыцьцёвай задачай работніцкай клясы, а да гэтага яе штурхаюць завостраныя у аграмадных разьмерах клясавыя супярэчнасьці, пагаршаючы палажэньне масаў і у эканамічных ,і палітычных адносінах.

А перамога працоўнае клясы вызваліць людзкасьць ня толькі ад эканамічнага прыгнечаньня, але павінна ажыцьцявіць поўную дэмократыю, а значыцца ня толькі прывесьці раўнапраўнасьць нацыяў, але і ажыцьцявіць права іх на самаазначэньне г. зн. права на свабоднае вырашэньне свайго лёсу.

**Наш шлях — шлях працоўных.**



# ЧАРЛЬЗ ДАРВІН і КАРЛ МАРКС

Маркс і Дарвін—вось дзьве асабістасьці, з імем каторых зьвязана XIX стагодзьдзе, і мы не памылімся, калі скажам, што яны зьяўляюцца вельмі характэрнымі і для пераджываемай намі эпахі. Кожны з іх зрабіў у галіне распрацоўваемай імі навукі пэўныя адкрыцьці, каторыя ня толькі ўнясьлі пераварот у паасобныя галіны веды, але балей таго, стварылі грунтоўны пераварот ўва ўсім чалавечым жыцьці. Ніжэй мы прыводзім некалькі заметак аб іх творах, іх навуковых мэтадах, іх жыцьці і іх характарах.

I

## Іх творы

У гэтым артыкуле мы можам, зразумела, гаварыць толькі аб найбольш выдатных творах Дарвіна і Маркса. Больш падрабязнае дасьледаваньне і ацэнка гэтых твораў ляжаць па-за рамкамі нашага артыкулу.

Першым творам Дарвіна быў; „The naturalist's voyage round The Wold (Падарожжа дасьледчыка прыроды навакол сьвету.)

У 1831 годзе 22-гадовы Дарвін прадпрыняў як дасьледчык прыроды падарожжа на параходзе „Beagle", якое працягнулася 5 г. У працягу гэтага часу ён зрабіў значную калькасьць спасьцярогаў. Некаторыя з іх па павароце на бацькаўшчыну ён апублікаваў у сваёй вядомай кніжцы якую ён лічыць сваім першым „літэратурнай дзяцінай".

У сьлед за апублікаваньнем „Падарожжа дасьледчыка прыроды навакол сьвету" зьявілась некалькі твораў Дарвіна з галіны веды гэалёгіі. Гета былі дзьве кніжкі: „Гэалягічныя спасьцярогі над вулканічнымі выспамі („Geological Observations on Vulcanical Jslands") і „Гэалягічныя заметкі ад Паўдзённай Амэрыцы" „Gelogican Observations ol South Americа". Цяпер абедзьве гэтыя кніжкі можна мець у адным томе—і выдатны твор аб каралёвых рафах. Першыя дзьве з толькі што успомненых працаў зьмяшчаюць багаты статыстычны матэр'ял і некалькі ў вышэйшай ступені цікавых гіпотэз. У трэцяй акрэсьліваецца вядомая тэорыя, каторай Дарвін тлумачыць паходжаньне і сувязь паміж трыма фармальнасьцямі каралёвых рафаў, вядомых пад пазовай лягунаў, каралёвых архіпэлягаў і аттоляў. Згодна з гэтай тэорыяй марское дно на каторым паўстаюць рафы, апускалась і апускаецца вельмі павольна. Хаця пасьля і зьявілася другая тэорыя якая вельмі старанна прабавала зьняпраўдзіць Дарвінаўскую, тым ня менш апошняя выйшла пераможніцай, апраўдаўшы сябе у вельмі многіх выпадках. Лішне пералічываць тут далейшыя творы Дарвіна у іх храналягічным парадку. Здаецца больш падыходзячым разьбіць іх паводле распрацованых усіх пытаньняў. У першую групу уваходзяць працы з батанікі. З іх паважнае мейсца займаюць наступныя працы: „Запладненьне архідэяў." „Рух і спосаб жыцьця паўзучых расьлінаў,"

„Казяўкаедныя расьліны“, „Значэньне самазапладненьня і запладненьня шляхам скрыжаваньня у сьвеце расьлінаў,“ „Розныя формы красак на расьцінах аднаго гатунку,“ і „Здольнасьць расьлінаў да руху„.

Кожная з гэтых працаў пралівае яскравае сьвятло на важнейшыя пытаньні батанікі, адрожніваецца поўнасьцю арыгінальных спасьцярогаў і фармулуе надзвычай важныя тэорыі. Дарвін выдаў чатыры працы з заалёгіі. Тры з іх уяўляюць вычэрпваючыя манографіі: „Вусаногія ракі“. „Выкапніковыя Lepadidae“, „Выкапніковыя Balanidee“. Гэтыя творы зьяўляюцца памяшкамі церпялівага досьледу. Кожная з шматлікіх адменасьцяў гіропэдыяў і марскіх жалудзёў расьсякалася, а гэткая сэкцыя з вялікімі перашкодамі і адмалёўвалася. Аддзел аб гірапэдыях і марскіх жалудзёх прошлага разпрацаваны вельмі грунтоўна ў гэтых працах. Шмат яскасьці пралічна на складаньне і жыцьцёвыя прызвычаеньні гэтых жывёлаў. Адносна гэтых манаграфіяў з поўнай справядлівасьцю сьцьвярджалі, што іх адных досыць з выдатнейшых вучоных нашага стагодзя.

Яны зьяўляюцца адзінымі творамі, дзеля разуменьня якіх патрабуецца спэцыяльная падгатока і дзьля гэтага яны не даступны шырокім масам. Але калі ня лічыць гэтых працаў, то можна сказаць што Дарвін не напісаў ніводнага твору, які не зьяўляўся-б даступным разуменьню нават людзям, не атрымаўшых спэцыяльнай адукацыі. Само сабою разумеецца, гэалёгі і біалёгі атрымаюць шмат балей карысьці ад чытаньня такіх твораў, чым асобы, не атрымаўшыя спэцыяльнай адукацыі ў гэтых галінах.

У кожным выпадку, усякі мала — мальскі інтэлігентны чалавек можа без асаблівае працы чытаць і разумець усе творы Дарвіна, за вынятком „Chiropedien“

Чацьверты твор Дарвіна па заалёгіі; Паўставаньне расьліннага пластка пад уплывам дзеяльнасьці дажджавых чарвякоў“ — апошні апублікованы ім твор. Гэтая праца ня вельмі абыймістая, але месьціць у сабе значную колькасьць вельмі цікавых досьледаў і высоўваець важныя тэорыі аб залежнасьці паміж дзеяльнасьцю дажджавых чарвякоў і паўставаньнем расьліннага пласта, найбалей памыснага для расьліннасьці.

У чатырох працах Дарвін вылажыў сваю тэорыю разьвіцьця Разумеецца, усе яго навуковыя працы больш ці менш непасрэдна пасьвечаны праблемам зараджэньня і разьвіцьця жывёла — расьліннага арганізму і вырашэньня гэтых праблем пры помачы тэорыі разьвіцьця. Але толькі што успомненыя чатыры творы спэцыяльна і самым грунтоўным спосабам разпрацоўваюць гэтае у вышэйшай ступені важнае пытаньне. Першая з іх выдатная „Тэорыя паходжаньня відаў“ (гатункаў).

Гэтая праца была выдана у 1859 годзе. У ёй засноўваецца зробленае Дарвінам адкрыцьцё, што шматлікія віды расьлінаў і жывёлаў зьявіліся не дзякуючы такой-жа колькасьці актаў тварэньня, але што яны паступова разьвіваліся з папярэдніх формаў жывела—расьлінных арганізмаў. Год выпуску у сьвет гэтага твору (1859) неабходна

добра запамятаць, асабліва прыймаючы пад увагу той дзіўны зьбег абставінаў, аб якіх мы скажам ніжэй. „Тэорыя паходжаньня відаў“ была спаткана выбухам абурэньня. Шмат якія вучоныя не хацелі з пачатку згаджацца ні з водным словам новай тэорыі. Духоўнікі ўсіх царквоў абвясьцілі гэтую тэорыю агіднай і дзікай, ажыцьцяўленьнем бязбожніцтва і ганебнасьці.

Бяздарныя пісакі, ня здольныя разабрацца і нямаючыя ніякага права выказваць погляды аб так зложаным і цяжкім пытаньні, цынічна далучылі свой голас да агульнага абуранага хору. Усюды, нават у салёнах, разважалі аб гэтай кніжцы і выказвалі аб ёй погляды асобы, ніколі не прачытаўшы з яе ніводнага радка.

Цяпер увесь сьвет прызнаў гэтую працу клясычным творам. У цяперашнія часы ніводзін вучоны ні ў воднай дзяржаве ня знойдзе ні воднага пярэчэньня супроць „тэорыі разьвіцьця“ Дарвіна. Вучоны сьвет прызнаў тэорыю Дарвіна і зрабіў яе выхадным пунктам абаснаваньня сучасных досьледаў і далейшага разьвіцьця яго вучэньня.

Духаўнікі з задзіўляючай лёгкасьцю прымірыліся з тэорыяй паходжаньня відаў і пробуюць прыстасаваць яе да тэалётічнага сьветапагляду. Толькі самыя цёмныя папы і ксяндзы яшчэ прабуюць і ў сучасны мамэнт падыймаць свой голас супроць Дарвіна. Што датычыцца шырэйшай публічнасьці, то яна бязумоўна ў гэтых адносінах сьлепа ідзець за сваімі духоўнымі пастырамі. У цяперашнія часы было-б надта трудна знайсьці чалавека з сярэднім розумам і адукаваньнем, які-б нічога не хацеў ведаць аб Дарвінскай тэорыі разьвіцьця“.

Па выхадзе у сьвет „Тэорыі паходжаньня відаў“ Дарвіна часта папракалі за тое, што гэты твор зьяўляецца плодам надта пасьпешнай працы. Вылажыныя ў гэтым творы аканчальныя вывады зроблены, зданьнем некатарых, занадта пасьпешна, мэтай аўтара як быццам было магчыма хутчэй прыйсьці да гэтакіх вынікаў. А ці ведаюць сьцвярджаўшыя гэта колькі год працаваў і думаў дасьледчык, пакуль апублікаваў гэтую кніжку. У 1831 годзе уступіў ён на борт карабля „Beagle“. У 1859 годзе выйшла у сьвет „Тэорыя паходжаньня відаў“. Дваццаць восем гадоў працаваў ён над гэтым творам. А колькі можна знайсьці у цяперашнія часы аўтараў, якія могуць у значна балей кароткі час напісаць працы аб важнейшых пытаньнях. Аднак, гэтая, творачая эпоху, праца не была-б апублікованая і ў 1859 годзе, калі-б сябры аўтара пераконываючымі просьбамі ня змусілі яго апублікаваць гэтую працу. Дзеля слабога ў тыя часы здароў'я Дарвіна, сябры яго баяліся, каб ён не памёр не пасьпеўшы падзяліцца з сьветам сваім выдатны адкрыцьцём.

Апошняе можа служыць такжа адказам і на другі закід супроць гэтага твору, а іменна, што гэты твор зьмяшчае мала фактаў даводзячых тэорыю Дарвіна. Аднак падобнага прыкладу закіды самым рашучым спосабам былі адкінуты выданьнем другога твору: „Зьмена жывёлаў і расьлінаў у стане прыручэньня“. Два томы цэннага твору зьмяшчаюць у сабе атрамадную колькасьць спасьцярогаў Дарвіна і другіх вучоных над разьвіцьцем расьлінаў і жывёлаў, каторыя

падпалі пад мадыфіцыруючы ўплыў людзёў. Гэтыя пазіраньні прадстаўляюць выхадны пункт тэоры і разьвіцьця жывёла-расьлінных арганізмаў.

Але і пасьля таго, як гэтая агульная тэорыя была ўсімі прызнана, чутны былі яшчэ закіды, што гэгая тэорыя ня мае абсалютна ніякага значэньня для разьвіцьця чалавека. Чалавек заўсёды бязумоўна імкнуўся заняць асобае становішча, з вышыні якога ён мог-бы у сьвядомасьці асабістага вялічча спаглядаць на ніжэй за яго стаячыя жывыя істоты, Тэорыя эвалюцыі можа і правідловая для расьлінаў, але не для чалавека. На гэтыя прэтэнзыі Дарвін адказаў выданьнем свайго твору. „Паходжаньне чалавека“.

Гэты твор зьяўляецца магчыма самым папулярным з усіх яго працаў. Тут сабраны нязьлічаныя факты, якія прывялі Дарвіна да пагляду, што чалавечы род не зьяўляецца прадуктам асобнага творчага акту, але зьяўляецца вынікам раду ператварэньня ніжэйшых формаў ў балей высокія. Ад часу апублікаваньня „Паходжаньня чалавека“, лік доказаў на карысьць прыведзенага тут пагляду вельмі павялічыўся і за выняткам аднаго толькі вучонага, можа ня знойдзецца ніводнага балей ці меней выдатнага дасьледчыка прыроды, які ня быў-бы староннікам Дарвінаўскае тэорыі.

У 1871 і 1872 гадох Дарвін напісаў „Выяўленьне адчуваньняў у чалавека і жывёлы“. Тут Дарвін выкладае і аналізуе розныя спосабы за пасярэдніцтвам якіх чалавек, а таксама і жывёла выяўляюць свае душэўныя хваляваньні. Аўтар даказвае, што спосабы, якімі чалавек карыстаецца для выражэньня гневу, радасьці, цярпеньняў, хваробы і г. д. грунтуюцца на азначаных простых аканамічных асаблівасьцях і адносінах псыхалягічных зьявішчах, якія можна наглядаць ня толькі у чалавека, але і ў д угіх жывёлаў.

Цяпер пяройдзем да твораў Маркса. Ято шматлікія артыкулы ў часопісах усіх краёў, так-жа, як і яго дробныя творы, я пакідаю ў старане і ўспомню спачатку аб яго „Крытыцы палітычнай эканоміі“. Гэтая праца зьмяшчаець у сабе зародак яго пазнейшага спаўнага твору „Капітал“. Ня лішне адзначыць што „Тэорыя паходжаньня відаў“ і „Крытыка палітычнай эканоміі“ выйшлі ў сьвет у тым самым годзе; абодвы гэтыя творы былі апублікаваны у 1859 годзе. Дзіўны зьбег акалічнасьцяў: два творы, якія павінны былі зрабіць грунтоўны пераварот, першы — у галіне біалёгіі, другі — палітычнай эканоміі, і балей таго — ўва ўсім сьветапаглядзе, ўва ўсім духоўным жыцьці XIX стагодзьдзя, абодвы зьявіліся у тым самым годзе.

У 1867 годзе выйшаў у Нямеччыне першы том „Капіталу“. Другі і трэці том гэтае слаўнае працы выданы былі пасьля сцмерці Маркса—Энгэльсам.

II

## Іх навуковыя мэтады

Існуе пяць фазаў цераз каторыя павінна прайсьці праца навуковага досьледу: абсэрвацыя, досьлед, запісваньне, разважаньне і фармуляваньне тэорыі. Дарвін і Маркс абодва зьяўляюцца яркімі

прадстаўнікамі таго тыпу вучоных, навуковыя працы якіх праходзяць названыя пяць стадыяў. Як было ўжо ўспомнена, Дарвін у працягу 28 гадоў рабіў досьледы над расьлінамі і жывёламі, пакуль выступіў са сваім адкрыцьцём, абаснаваным на масе дабытага ім фактычнага матэр'ялу. Зусім сумленна запісываў ён вынікі абсэрвацыяў і досьледаў: у яго працоўным кабінэце ў Дауне знаходзіліся заўсёды апрача кніжак мікраскопы і ўсялякія кольбы і ратoрты, якімі ён карыстаўся для сваіх досьледаў, і вялікая колькасьць запісных кніжак, у якія ён запісываў усё, што яму прыходзілася чытаць ці абсэрваваць і ўсё, што яму ўдавалась сьцьвярджаць на падставе зробленых досьледаў. Запісанае ў гэтых сшыткох ён пасьля апрацоўваў І фармуляваў у постаці тэорыяў. Гэтая вышэйшая і апошняя ступень навуковага досьледу даступна толькі найбалей уздольненым натурам. Шмат якія маюць здольнасьць абсэрваваць, рабіць досьледы, запісываць і абдумываць; але мала якім розумам даступна фармаляваньне агульных тэорыяў г. з. з вялікай колькасьці сабраных фактаў, адзначаных зьявішчаў вывесьці адзіны, усім агульны і усіх іх лучачы прынцып, сатхаць, калі можна так сказаць, залатую нітку, каторая-б зьвязала нязлічаную колькасьць дробных фактаў і зьявішчаў, унясьці такім чынам парадак у агульны хаос. Гэтыя тэорыі часта неправідлова называюцца „законамі прыроды“. Найгоршым вынікам гэтай неправідловасьці зьяўляецца тое, што шырокія слаі публічнасьці дзякуючы такому назову, бачуць нешта агульнае паміж законамі прыроды і дзяржаўным законам. Адзіная супольная рыса гэтых паняцьцяў, гэта слова „закон“. Закон прыроды гэта абагульненьне г. з. слоўна выслоўленае вырашэньне азначаных, вывядзеных ча падставе абсэрвацыі рэзультатаў ці вынікаў прыродных зьявішчаў і працэсаў. Дзяржаўны закон гэта распараджэньне дзяржаўнай улады, якое павінна рэгуляваць узаемныя адносіны людзёў. Дзеля гэтага толькі пры самым павярхоўным абагульненьні можна прыйсьці да вываду, што закон прыроды дапушчае заканадаўцу. Дзеля уніканьня магчымасьці падобнага вываду трэба было-б адмовіцца ад слова „закон прыроды“ і гаварыць толькі аб тэорыях.

Маркс у сваю чаргу абсэрваваў факты эканамічнага жыцьця і сацыяльныя зьявішчы прошлага і цяперашняга. Ня можна зразумела сказаць, што ён рабіў экспэрымэнт. У гэтых адносінах варункі, ў якія пастаўлены палітычны эканаміст і дасьледчык прыроды, у сутнасьці розьняцца: апошні можа беспасярэдна рабіць досьледы, першы пазбаўлены гэтае магчымасьці. На шчасьце гісторыя грамадзянства звальняе яго ад неабходнасьці займацца гэтай працай. Калі палітычны эканаміст уважна вывучвае гісторыю прошласьці, калі ён падрабязна дасьледуе сацыяльныя варункі сучаснага жыцьця, тады ён натрапляе на вялікую колькасьць ужо закончаных досьледаў, якія ён можа выкарыстаць; так, напрыклад, гісторыя Рыма, паншчына, фэадальнае ўладаньне, адкрыцьце Амэрыкі, зачаткі капіталістычнага гаспадарства, тая нязначная колькасьць ежы, якой можа задавальняцца чалавек для падтрыманьня свайго існаваньня, біржа, прывілейныя акцыянэрныя таварыствы, шлюбны рынак, жывёльны рынак і г.д. і г.д.

Палітычны эканаміст адзначвае як вынікі сваіх асабістых абсэрвацыяў, так і вынікі досьледаў, зробленых для яго гісторыяй, і грамадзтвам, затым ён распрацоўвае матар'ял і, нарэшце выступае да абагульненьняў.

Вышэй ужо ўспомнена, што толькі больш выдатныя вучоныя, здольны да абагульненьня. Але істнуюць тэорыі, фармуляваць якія можа толькі ў высокай ступені даравіты розум і глыбока разьвітая здольнасьць думаньня. На думцы маем тэорыі, каторыя, зьяўляючыся вытворчасьцю вывучэньня эвалюцыі, рэвалюцыянізуюць, ня толькі паасобную навуку, але і увесь чалавечы сьветапагляд як суцэласьць. Такія вялікія грандыёзныя тэорыі разумеецца рэдкія. Яны робяць уплыў на самае жыцьцё чалавецтва. Істнуе шмат прыгожых навуковых тэорыяў, каторыя тым ня мяней ня мотуць быць аднесены да гэтага аддзелу. Так напрыклад, задзіўляючае адкрыцьце хэміка Мэндэлеева і англійца Ньюланда — пэрыядычная сыстэма элемэнтаў. Як ня прыгожа і ня варта задзіўленьня гэтая тэорыя, тым ня меней, яна нярobіць ніякага уплыву на сьветапагляд масы. Тое-ж самае можна сказаць аб успомненай вышэй тэорыі арДвіна аб каралевых рыфах. Але час ад часу чалавечы розум творыць грандыёзную, узьнёслую тэорыю, каторая спачатку выклікае абурэньне самых шырокіх масаў усяго нават чалавецтва, пасьля прымушае пераканацца ў яе справядлівасьці і, нарэшце, робіць грунтоўны пераварот ўва ўсім чалавечым сьветапаглядзе. Напрыклад, адкрыцьцё Капэрніка, што не маленькая мізэрная зямля, а сонца знаходзіцца ў цэнтры нашай плянэтнай сыстэмы; або што ня сонца рухаецца навокал зямлі, а зямля навокал сонца. У XIX стагодзьдзі выступілі амаль, што адначасна Маркс і Дарвін. Спрабуем цяпер разабрацца, якія з іх тэорыяў у агульным працэсе разьвіцьця ідэяў зрабілі грунтоўны пераварот ня толькі ў галіне распрацаванай кожным з гэтых выдатных розумаў галіне веды, апе і ўва усім чалавечым сьветапаглядзе.

Ці можа наагул, якая небудзь з фармуляваных Дарвінам тэорыяў увечніць яго імя ў памяці патомства. Пэўне можа, зразумела. што такой тэорыяй не зьяўляецца ніводная з яго спэціфічных, батанічных, альбо зоолягічных тэорыяў, бо наколькі-б вялікае ня было значэньне гэтых тэорыяў, яны могуць цікавіць пераважна толькі фахоўца. Такой перадусім можа быць толькі тэорыя, якая ўплывае на розум і фантазыю масаў, уплывае на іх пачуцьцё і выабразьню, рэвалюцыянізуе іх. Магчыма, большасьць чытачоў гэтага будзе таго погляду, што з гэтага пункту гледжаньня падобнымі тэорыямі зьяўляюцца: тэорыя натуральнага падбору, альбо тэорыя барацьбы за існаваньне і выжываньне больш моцных. Аднак жа ня можна згадзіцца з гэтым поглядам; апошняя не зьяўляецца найбалей выдатнай з тэорыяў Дарвіна.

Як-бы прыгожая гэтая дактрына сама па сябе ня была, цяпер ужо бязумоўна згаджаюцца, што акрамя натуральнага падбору маецца шмат другіх розных фактараў, каторыя хаця і ня маюць таго-ж значэньня, што і натуральны падбор, і ў параўнаньні з ім займаюць другараднае мейсца, тым ня меней разам з ім павінны быць прыняты

пад увагу пры тлумачэньні паходжаньня відаў расьлінаў і жывёлаў.

Тэорыя, каторая асабліва ўвекавечвае ў памяці патомства імя Дарвіна гэта тэорыя эвалюцыі. У гэтай тэорыі Дарвін рашуча і акančальна фармуляваў вялікі прынцып бязупыннасьці працэсаў і зьявішчаў. Зразумела і да яго былі больш вялікія мысьліцелі, пачынаючы з Ляпляса і канчаючы Лямаркам, каторыя прызнавалі істнаваньне гэтага прынцыпу. Зразумела, шмат якія намякалі ў нясьмелай, не рашучай і туманнай форме на тое, што у прыродзе рэчаў адбываецца сталы працэс разьвіцьця. Але да выступленьня Дарвіна са сваей тэорыяй панаваў у грамадзтве і навет у навуцы пагляд, што ўсё у прыродзе азначаецца і рэгулюецца з вонку якойсьці вялікай сілай ці, правідловей, вялікімі сіламі; што ўсе рэчы маюць свой пачатак; розныя формы матэрыі і розныя формы руху таксама вызначаюцца і рэгулююцца звонку; што можна дапушчаць канчатковае зьніштажэньне матэрыі і сілы; Дарвіну удалося даказаць, што матэрыя і сіла — вечныя і ня могуць быць ні створаны, ні разбураны; што зьявішча і працэсы, якія даконваюцца ў сусьвеце, паколькі яны вядомы, бязупынны.

Давёўшы гэта адносна паходжаньня відаў расьлінаў і жывёлаў і паходжаньня чалавека, ён тым самым правёў, угрунтаваў і замацаваў думку, што усё жыцьцё чалавека ёсьць нішто іншае, як бязупыннае разьвіцьцё. Ён палажыў апошні камень таго вялікага будынку, фундамант каторага быў закладзены яшчэ шмат стагодзьдзяў таму назад старажытнім грэцкім філязофам Гэраклітам, у яго вядомым сказе: „усё цячэ“.

Ці маецца фармуляваная Марксам тэорыя, каторая павінна бязумоўна увечніць яго імя ў памяці патомства. Зразумела маецца. Ён, як і Дарвін фармуляваў цэлы рад меней значных тэорыяў. Так напрыклад устаноўлена ім розьніца паміж работнай платай і цэннасьцю затрачанай працоўнай сілы. Найбольш важнай з дактрынаў Маркса можна лічыць „Тэорыю дадатковай цэннасьці“. Вядома, што і да Маркса палітычныя эканамісты мелі ўжо прадстаўленьне аб дадатковай цэннасьці, таксама, як і да Дарвіна біолёгі мелі прадстаўленьне аб тэорыі разьвіцьця. Але аднаму толькі Марксу ўдалося ясна сфармуляваць тэорыю дадатковай вартасьці, усебакова дасьледаваць яе, абаснаваць і даць нам тым самым ключ да зразуменьня сацыяльна-эканамічных адносінаў, таксама як тэорыя эвалюцыі дае нам ключ да зразуменьня біалягічных працэсаў.

Тэорыю дадатковай цэннасьці падрабязна вытлумачым у другім мейсцы. Дзеля гэтага цяпер у кароткіх рысах займемся другой тэорыяй Маркса, хаця ясна па свайму значэньню і ўступаець тэорыі „дадатковай вартасьці“. Маем гэтым на думцы яго матэрыялістычнае разуменьне гісторыі. Як-бы гэта не здавалася дзіўным, але Энгельс самастойна, незалежна ад Маркса дайшоў да такога-ж разуменьня гісторыі. Тым ня меней, ён сам заўсёды даказваў, што Маркс абаснуваў і распрацоўваў гэтую тэорыю зусім незалежна ад вынікаў яго асабістых досьледаў і патраціў на гэтую працу нявымерна больш высілкаў. Матэр'ялістычнае разуменьне гісторыі цьвердзіць, што

важнейшым падставовым фактарам дзеючым у разьвіцьці народу, ці грамадзва зьяўляюцца гаспадарскія адносіны г. з. тыя спосабы, пры дапамозе каторых народ ці грамадзтва вытварае і абменіваецца сваімі прадуктамі. Калі мы хочам вытлумачыць сабе, чаму сацыяльныя адносіны ў Рыме, Гішпаніі і Англіі насілі ў даны мамэнт той, ці іншы азначаны характар, мы павінны згодна з матэрыялістычным разуменьнем гісторыі дасьледаваць варункі вытворчасьці і абмену тавараў у старажытных рымлян і гішпанцаў, англійцаў. Неабходна цьверда падумаць, што паводле тэорыі Маркса эканамічныя варункі зьяўляюцца толькі ў апошнім ліку рахуючымі сіламі гістарычнага разьвіцьця. Гэта неабходна асабліва падчырківаць дзеля таго, што некаторыя з нашых таварышоў у непамерным захопленьні гэтай тэорыяй выстаўляюць усюды эканамічныя варункі адзіным рухавіком гістарычнага разьвіцьця. Але, зьяўляючыся сапраўды першаістнай рухаючай сілай, варункі гэтыя прыводзяць у дзейнасьць другія фактары, каторыя зьяўляюцца так сказаць рэфлексамі першых, каторыя ў свой чарод аказваюць значны уплыў на першаістныя, спарадзіўшыя іх фактары — эканамічныя варункі і такім чынам атрымоўваецца зложаная сетка адносінаў, дзейснасьцяў і ўзаемадзейснасьцяў, паміж першымі і другімі. Далей, хаця мастацтва, навука, літэратура, рэлігія, звычаі і законы разьвіваюцца ў залежнасьці ад эканамічных варункаў данай краіны, тым ня меней, неабходна лічыцца з іх гістарычным уплывам на сацыяльнае разьвіцьцё.

Паводле думкі шмат якіх нашых праціўнікаў, — тэорыі Маркса і Дарвіна супярэчныя. Асабліва вучэньне аб натуральным падборы, кажуць яны, знаходзяцца ў сам м рэзкім праціўстаўленьні з сацыялістычным сьветапаглядам. Гэты закід здаецца зусім безпадстаўны. Паміж дарвінізмам і марксізмам ня можна спасьцярагчы вялікае рожніцы. Сацыялізм зьяўляецца лягічным вынікам гістарычнага працэсу разьвіцьця, а ў вучэньні Дарвіна бачым вельмі паважнае абаснаваньне гэтага працэсу. Абаперціся можна яшчэ на тым, што Маркс праяўляў наагул вялікую любоў да чытаньня, быў бязумоўна добра знаёмы з усімі творамі Дарвіна. Ня можна аднак сказаць таго-ж аб знаёмстве Дарвіна з творамі Маркса. Падаем тут ліст Дарвіна да Маркса, які зьяўляецца надта цікавым і характэрным. У 1873 г. Маркс паслаў вялікаму прыродніку другое выданьне першага тому свайго „Капіталу“. У адказ на гэта ён атрымаў наступны ліст:

„1-е кастрычніка 1873 году.

Ваша міласьць. Дзякую Вам за гонар, які Вы мне аказалі прыслаўшы свой вялікі твор. Я ад усяе душы хацеўбы дасягнуць вялікага зразуменьня глыбокіх і важных палітычна-эканамічных пытаньняў і тым самым быць больш вартым гэтага падарунку. Як ня розьняцца краіны нашых досьледаў, аднак я думаю, што мы абодва сур'ёзна імкнемся да распаўсюджваньня веды і што веда у канцы канцоў бязумоўна будзе дапамагаць шчасьцю чалавецтва.

Застаюся адданым Вам *Чарльз Дарвін*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА*)

У Менску, у выданьні „Інбелкульту“' пературованага ў мінулым годзе у Беларускую Акадэмію Навук, выйшаў першы том шырока задуманай аўтарам працы, якая, трэба спадзявацца, зробіць, як кажуць, эпоху у сваей галіне зьяўляючыся першай спробай сыстэматычнага вывучэньня беларускага мастацтва, як такога.

Спроба, трэба сказаць, бліскуча ўдалася аўтару. Яго пекна-шчыра, з любоўю і шырокай і глыбокай ведай прадмету паўсталая праца ня толькі пераконвае але папросту захоплівае чытача.

Уваскрашэньне роднай але забытай народнай мінуўшчыны жывое, сагрэтае любоўю, знаньне яе павінна побач з агульн м узростам нацыянальнай сьведамасьці і ўздымам сацыяльна-палітычнага вызваленьня увайсьці ў камплекс тых жывых сілаў, з якіх складаецца шырокі, магутны рух беларускага адраджэньня.

І тутака зусім асаблівае значэньне мае якраз гісторыя народнага мастацтва. Мастацтва народу, гэта яе сыстэматычнае завяршэньне усяго складанага духоўна-матэрыяльнага жыцьця народу, так сказаць „красаваньне яго сацыяльна-эканамічнага арганізму“, найлепшае выражэньне яго арганічнай перамагаючай акружаючы яго матар'яльны сьвет і арганізуючай яго жыцьцё творчай сілы. У мастацтве народ трыумфуе свае першыя перамогі над сваей вонкавай і ўнутранай прыродай, сьвяткуе вольнай „ігрой“ свае чарговыя пачатковыя „вызваленьні...“ Таму ў мастацкіх дасягненьнях народ знаходзіць заўсёды тое, што ён наагул любіць і цэніць у жыцьці вышэй над усё: сьцвярджаньне гэтаи сваёй перамагаючай сілы, сваей, як кажуць, „духоўнай актыўнасьці. Гэты мамэнт перамогі, жывы і дзейсны у кожным „мастацкім дасягненьні“, а асабліва дзеючы на душу народа у родным мастацтве, павінен стаць жывым, сталым. неад'емным складнікам народнай душы.

І ў гэтым агульнае і першае значэньне мае — мастацтва для народу, якому першым чынам патрэбна ўва ўсіх галінах яго жыцьця і працы гэта перамагаючая сіла, гэта вера, ва ўласную неперproductsможнасьць. І мастацтва асабліва дорага тым, што дае гэтую веру і гэтую сілу народу, адначасна ушляхотніваючы, дысыгнуючы іх хараствам. А гэтае хараство насамперш азначае тое, што робіць сілу народную трывалай, агульнапрызнанай, — як кажуць, сучасныя філязофы „нармальнай“.

Дзеля ўсяго сказанага трэба асабліва прывітаць працу маладога беларускага вучонага, ўваскрашаючага—у сыстэматычным і гістарычным аглядзе—нязьлічаны сьцяг мастацкіх перамогаў і дасягненьняў беларускага народу ўва ўсіх галінах яго жыцьця і творства, прывітаць з вялікай падзякай як ня толькі добрую працу фахоўца—вучонага, але і як важны і неабходна патрэбны адраджаючамуся беларускаму народу чын грамадзяніна.

* М. Шчакахін, доцэнт Белар, Дзяржаўны Універсытату. „Нарысы з Гісторыі беларускага мастацтва“ Т. І. Інст. Белар. Культуры Менск—1928. 290 стр.

Таму ў ніжэй паданых радкох пастараемся даць шырокім колам жыхароў нашага Беларускага краю паняцьце аб багатым зьмесьце першага тому гэтай „гісторыі.“

---

Запраўды-ж—ніхто да-этуль, кажа аўтар, ня ставіў сабе задачай выяўленьня тыповых беларускіх элемэнтаў і памятнікаў мастацтва у Беларусі.

Расейскія вучоныя свой аналіз формаў старажытнай беларускай культуры, мала цікавячыся ёй па сутнасьці, зводзілі амаль ня выключна да спробаў даказаць з гары пастаўляную тэзу аб „адзінстве агульна—рускай культуры Кіяўскай і маскоўскай Русі“. Пры гэтым яны перацэнівалі заўсёды уплыў Бізантыі, якая зусім не йграла, усюды, падчырківае аўтар, такой дамінуючай ролі, — нават у царкоўнай архітактуры Беларусі!

Датаго-ж расейскія вучоныя тэндэнцыйна не пакідалі амаль што бяз асьвятленьня тыя элемэнты Заходня—Эўрапэйскіх формаў, якія іграюць такую важную ролю ў памятніках беларускай старажытнасьці асабліва ў архітэктуры.

Ці-ж запраўды ня „дзіўна,“ што нават такая капітальная праца як ведама „Гісторыя Рускага Іскуства“ Ігора Грабары, даючы месца нават памятнікам жыдоўскага драўлянага будаўніцтва на Украіне, зусім нават не ўпамінае наагул аб беларускай тэрыторыі, відаць, не знайшоўшы бо-ж і не шукаўшы на яе прасторы нічога годнага для яе вывучэньня!!.

З другога боку польская навука, праўда, больш цікавілася старажытным мастацтвам Беларусі, але, разглядаючы апошнюю, як „частку Польшчы“, проста запісавала ўсе памятнікі беларускага мастацтва ў польскі „мастацкі інвэнтар“. Ня гледзючы на бьючыя ў вочы розьніцы між мастацкай спадчынай Вялікага княства Беларуска-Літоўскага і „кароны“.

Таму нічога няма дзіўнага у тым, крыху можа і „крыўдным для славянскай навукі“ факце, што пры адсутнасьці тады беларускай навукі — першымі, хто з навуковым падыходам і аб'ектыўнасьцяй — стаў вывучаць беларускае мастацтва як такое, былі немцы. Два нямецкія вучоныя спэцыялістыя Пауль Вэбэр і Альбэр Іппэль зьявіліся у часе нямецкай акупацыі Беларусі так сказаць „Калюмбамі беларускага мастацтва“. Нямецкім вучоным (д-рам Іппэлям) упяршыню ужыты былі і самыя тэрміны: (выразы) „Беларускае мастацтва“, „Беларускія школы жывапісу“, упяршыню адзначаны былі самабытныя элемэнты у самых рожнародных галінах мастацкага творства беларусаў, выказаны сьцяг кіраўнічых думак аб крыніцах і сувязях старажытнага беларускага мастацтва і г.д. Той жа нямецкі вучоны першы угледзіў „схэмы грэцкага храма і тэатру“... у некатарых гаспадарскіх будынкаў (сьвірань)(?) беларускай вёскі, прыкмеціў „агульны плян гэміністычнай віллы“ у сялянскіх дварох пад Рагачовым (Магілеўшчына) указаў на паходжаньне беларускіх паясоў ад грэцкіх „тэніяў“ і г. д. Адным словам, дзякуючы, нямецкай навуцы, усе нашае

Элліі

„тутэйшае", вясковае, сялянскае, пагарджанае і сваімі і чужымі, няведамае сьвету апынулася раптам у радстве з самымі царственнымі формамі і родамі сусьветна-гістарычнага мастацтва!.

Сваю задачу аўтар бачыць ў тым, каб разабраўшыся ўва ўсей складанасьці векавых чужаземных уплываў, пад якімі ад веку была беларуская зямля, угледзіць у іх мясцовай самастойнай сынтэзе тое аснаўное самабытнае ядро, да якога ужо ня толькі у тэрытарыяльным, але і ў статыстычна—фармальным (значыць мо'і ў нацыянальным) значэньні слова можна былоб аднесьці тэрмін (выраз), „беларускае мастацтва", прасачыўшы па тым і усю векавую эвалюцыю апошняга. У аснову свайго досьледу аўтар палажыў, зразумела, гістарычна-мастацкі мэтад.

*Курганная культура беларуса.* Аснаўных сувязей, тыповых рысаў беларускага мастацтва аўтар шукае ужо у найстарэйшай курганнай культуры Беларусі, вывучэньнем якой ён і пачынае сваю працу.

Гэтая найранейшая культурная гісторыя краю, якая складаецца у значнай меры заўсягды і паўсюды, а у Беларусі асабліва, з рознародных перакрыжоўваючыхся запазычаньняў і наслаеньняў. ужо ў туюдагістарычную эпоху, пасьпела аднак-жа выявіць ведамую самастойнасьць і сыстэматычную цэльнасьць асобнага тыпу, палажыўшага свой глыбокі адбітак на далейшае культурнае разьвіцьце Беларусі.

Як ведама, ні пасьпехі археолёгіі, ні лінгвістычныя (моўныя) досьледы не далі дагэтуль поўных вывадаў адносна да этнаграфічнага складу першапачаткавага насяленьня Беларусі. Нават аб часе прыходу славянаў у край, думкі вучоных разыходзяцца. Аўтар, можна думаць, прыхіляецца да думкі праф. Сніцына і і інш. аб першапачатковых Літоўскіх элемэнтах у краі і аб пазьнейшым прыходзе у яго славянскіх плямёнаў.

Праф. Спіцын, як ведама дапускае нават істнаваньне асобнага „Літоўскага пэрыяду" у курганавай культуры краю у VI—VII вякох.

Як бы ня было, дадзеныя археолёгіі сьведчаць, што пры рознародным этнаграфічным складзе насяленьня краю большая частка сучаснай беларускай тэрыторыі прадстаўляла ўжо у курганавы пэрыяд ведамае адзінства формаў матэр'яльнай культуры, якая дзеля таго і можа быць названа стара беларускай, хаця б толькі у тэрыторыяльным сэнсе выразу.

Дзякуючы свайму географічнаму палажэньню Беларусь здаўна зьяўлялася перакрыжаваньнем вялікіх водных шляхоў паміж басэйнамі Балтыцкага, Чорнага і Каспійскага мораў,—транзытоўным пунктам у гандлёвым і культурным абмене паміж разьвіваўшыміся на гэтых басэйнах рознымі культурамі. Ужо з гэтага відаць, якія рознародныя ўплывы крыжаваліся ў краі і як глыбока яны пры масе больш дробных водных артэрыяў—прасякалі у гушчу яго насяленьня.

(Працяг будзе у наступным нумары)



Г. БЯРОЗКА

## Сон нявольніка

Ён спаў на падлозе, змадзеў ад акоў,
Ад цяжкае працы мазольнай;
На раненых руках запеклася кроў,
Але ён душою быў вольны.
Ён сьніў ў душы згадкі, цудоўныя сны,
Раскошныя, пекныя мрыі;
Ў іх Вольнасьць ён бачыў сваёй стараны,
І лепшыя думкі сьвятыя.
Ён бачыў: Яна, укаханая, йшла;
Прад ёй мяніліся зоры;
Ў абліччу цудоўная, ясная ймгла.
І смутак задумы у зоры.
Сьвятляная, ясная была пастаць,
І з ціхаю ласкай глядзела...
Ў гары, на чале—дыямэнты блішчаць...
Душа ад трывогі самлела...
Ў руцэ яна мела чырвоны штандар;
З тым сьцягам народнае волі
Вяла легіён на варожы абшар,
На царства турмы і нядолі.
Ён чуў у душы векапомны настрой
Захвыту народнае сілы,
Гатовы быў сьмела ісьці за таўпой
На крыжы, цярпеньні, магілы.
Вакола трыумф неабмежна лунаў,
І тыя чароўныя гукі
Ў душы выклікалі жывы ідэал,
Зьніштожыўшы гора і мукі.
Надзея, трыумф. вера, праўда, любоў—
Зьліліся ў супольным настрої, —
Ў музыцы тэй легіёнаў—паўкоў,
Ідучых на новыя бої.
На бої за праўду, яе, за сьвятло,
На вечную муку—нядолю
За тое сьвятое, што ў душах жыло —
Народу працоўната волю!
Каб палі аблуда, вызыск і даляр,
І гандаль сумленьнем і кроўю,
Зямля каб усюды, дзе людзкі абшар,
Паўна была братняй любоўю! —
І, пэўна, ён верыў тады, што прыдзе
Той час векапомны і слаўны,
Канец будзе вечнай аблудзе, нудзе,
І зьдзейсьніцца сон той дзяржаўны!

Так ціха аб раі, змадзелы, ён сьніў,
Быў пэўны: ўжо бліска гадзіна...
А стары жаўнер навакола хадзіў,
За злот аддавалась дзяўчына...

---

*
* *

Гатоўлюся ў жалі, у муцы, ў цярпеньні
Закончыць жыцьцё—калі ёсьць што канчаць
Пакінуты, хворы... Надзеі, імкненьні
Мінулыя прэч! не хачу аглядаць.
Занадта мне цяжкага, лютага болю
Прынесьлі яны, невысьнёныя сны:
Занадта кахаў я ўяўлёную Волю,
Занадта я верыў ў зьяўленьне вясны.
Ў недасьпеванай песьні, ў разьбітай надзеі
Ў чаканьнях няспоўненых век мой застыў,
І часы страшныя прышлі па калеі,
Што нельга забыці, а помніць—нет сіл.
Усюды дзе гляну—нязлічаны болі,
Нязгоены раны зьяўляюцца зноў —
У шчасьці мінулага, ў штандары Волі,
Дзе былі мне вера, жаданьне любоў..;
Адна ёсьць пастаць, на якой мне спыніцца,
Мо' будзе і больна, але так сьвятло;
Прад ёю належыла-б век нам маліцца,
Бо з ёю і сонца ля нас ажыло.
Чытунка. Віядукт у цені бярозаў,
Шырокі і роўны, даўгі так у даль,
Садочкі. І мроі вясеньніх марозаў.
Як сумна па вас, нявыслоўнены жаль!
Надзеі на праўду, чырвоную Волю,
І вера дзяўчыны што пра да прыдзе,
Што скрушыць нарэшці ўсю здраду нядолю,
І вольнасьць настане... і злосьць прападзе,
Лятэнды, і казкі, і песьні і гымны
Дабру, хараству, што з яе вуснаў чуў.
Убраныя ў пэрлы, дыямэнты-рымы, —
І сны вызваленьня, што з казак тых снуў.
Хацелась-бы ўрэшце, каб з даўняю верай
Ты йшла у змаганьне, 'каб крыўду зламаць.
З такімі як ты—будзе крыўда хімэрай
І будзем мы Волю сваю сьвяткаваць.
Загіну я, шчэзну... Ты будзь шчасьлівейшай!
Бо веры тваёй скэптыцызм не заб'ець.
Ты пойдзеш ляпей да дарогі вальнейшай,
Табе зорка Волі ляпей блеск пральлецв.

СТ. ШЫМАНОЎСКІ

* * *

Працавалі мы ў ярме крывава
У няволі былі час доўгі
Дык цяпер вольна жыць маем права,
Не загубіць цяпер ніхто нас.

Здаўна ў нас крыжакі палявалі,
Багацелі на нашай зямлі
З нашай працы усе карысталі;
Парабкамі мы толькі былі.

Прынясьлі нам няволю — апеку
І як скот запраглі працаваць.
Што цярпелі мы крыўду і зьдзеку —
Ні сьпісаць ні у казце сказаць.

І праўдзівых сыноў зямлі-маці,
За людзей нас ніхто ня лічыў,
І ў курнай, старой, зімнай хаце
Беларус як жабрак, з сям'ёи жыў

Ад чужынцаў ня мала дасталі
І зладзейства й пагарды і мук,
Увесь век дзень і ноч працавалі,
Мазалі нам ня сходзілі з рук.

Працавалі зімою і ў летку
І з сякерай, з сахой і з касой
Былі босы, ня мелі адзежку,
Чорным хлебам жылі і вадой.

І мы людзі, і нам надаела
Цярпець зьдзек ад прыблудаў чужых
Ўсяму сьвету гаворым мы сьмела:
Сьвеціць сонца для ўсіх!

З намі праўда, ня хочым мы многа,
І ня трэба нам крыўды чужой,
І ня трэба законучужога
І апекі над нашай зямлёй.

Хоць старалася цёмная сіла,
Ня магла нас згубіць, задушыць
Хоць была нам гатова магіла —
Мы жывыя былі й будзем жыць.

Дарма нас у няволі трымалі,
Справядлівасьці сьвет не пагас,
Мы цярпліва дзён лепшых чакалі,
Волі нашай збліжаецца час.

1920. год.

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ

Вось як даўней цярпеў брат мой
Адчужака ,ад пана
Сьлязьмі ўсё гэта і крывёй
Ў гісторыі сьпісана.

Жыло — было у нас іх шмат,
Як трутняў разьвялося,
І працаваў на іх мой брат,
І добра ім жылося.

Нязгоду сеялі між нас
У цэркві і ў касьцеле,
І ацямніць на вечны час,
Згубіць народ хацелі.

Да цяжкай працы запраглі
І сьвет ад нас закрылі,
Каб мы змагацца не маглі,
Рабамі ім служылі.

І ксёндз і поп нам тварыў,
Што гэта ўсё ад Бога:
Адных панамі ён стварыў
Другім даў гора многа.

Бог вельмі любіць беднякоў,
Дык вось ім так і трэба:
Цярпець, ачысьціцца з грахоў,
Каб увайсьці у неба.

Свабоднай Беларусь была
Ў мінуўшчыне з прад-века,
А посьле ў ярмо прывела
Як прыблуд-апека.

І што ўцярпеў брат мой
Ад чужака, ад пана —
Сьлязьмі ўсё і крывёй
Ў гісторыі сьпісана.

1919 год.

*Ст. Шымаnоўскі.*



# „БЕЛАРУСЬ“ — РОДЗЕВІЧА і „УЯЎЛЕНЬНЕ“ — ЖЫЛКІ

Жылка і Родзевіч—два таварышы—вучні новага, футурыстычнага кірунку ў літэратуры, паставілі сабе мэтай уявіць у пластычных формах, што такое Беларусь.

Як вынік іхняго ўяўленьня, выйшлі ў сьвет дзьве кніжкі: „Беларусь“ — Родзевіча і „Уяўленьне“ — Жылкі.

Супастаўленьне гэтых двох твораў выказвае шмат супольных рысаў: адразу кідаецца ў вочы адначасовасьць іх выданьня, футурыстычная форма, падобны зьмест, стыль і мова. Кожная песьня, як у Жылкі так і ў Родзевіча, напісана іншаю формаю, што прыдае асаблівую жывасьць іх уяўленьням. Але разам з тым даецца аднак заўважыць, што кожны з паэтаў падыходзіць да заданае тэмы зусім па свойму.

„Уяўленьне“ Жылкі складаецца з дванаццацёх разьдзелаў. Ужо з першага разьдзелу відаць, што Жылка — прадстаўнік бадзёрай думкі.

„Гэй, гаруны і бядулі, і сумныя
Вам гэта чуецца плач?
Годзе! . . . . . . . . . . . .
. . . . . , . . . . . . . .
Будзьма вясёлымі“ . . . . . . .

Вясёлымі таму, што будучыня Беларусі поўная лепшае долі і шчасьця. Ён кажа:

„Пяруны... грымяць аб адным: —
Паўнатучна Адраджэньне!
Бачу з ім
Бязмерныя далі
І вялікія вартасьці“.

Ня чужыя аднак аўтару і праблескі смутку. Ня гледзючы на словы:

„Я ні ў чым ня каюся —
Нябыцьця мінуўшчыны
Тройчы раз зракаюся!“

у словах, гаворачых аб мінуўшчыне бацькаўшчыны прабіваецца і смутак: „спалі паслухмяныя вёскі, сьцюжай скутыя, горш былі за ворагаў ей сыночкі родныя—ждалі скону скорага і сьлязы ні воднае“.

Але, ня гледзючы на ворагаў — сыноў, ні на ўціск суседзяў, ні на тое, што, як кажа аўтар:

„Гібеў як стой,
Ў бязвольлі,
Ў няволі,
Ў нядолі
Мой люд“

дух нeродны быў захованы.

„І вось — нязнаны—
Сягнуў тварыць,
. . . . . . .
Змог сну палон
І ночы глуш“.

Так, Беларусь абудзілася! Сярод зьняваг, сярод крыўдаў і ўціску Беларусь уваскросла.

„На родных узлоньнях
Натхнёная сіла
Мазольных далоняў
Разьбіла, зьнішчыла
Ярма ланцугі“. —

Гэта толькі першыя крокі да поступу. Жылка прадбачыць, што Беларусь вызваліцца зусім ад злачыннасьці чужацкіх народаў. Будучыня будзе сьвяціць ёй „кваціcтай пуцінай вясёлкі“, а яна ясным аблічам будзе заклікаць да брацтва, згоды.

Амаль што тую самую думку з невялікімі зьменамі праводзіць Родзевіч у сваім зборніку „Беларусь“. Родзевіч, як і Жылка хоча ўявіць, што такое беларускі рабочы рух. І Родзевіч верыць цьвёрда ў лепшую будучыню. І ён кажа, каб не сумавалі беларусы, што так доўга прышлося спаць пад уціскам, бо сон служыць для ўзмацаваньня духа ў барацьбе.

Верачы ў сьветлую і радасную будучыню, ні водзін з іх не падыходзіць да гэтага з сьлязьлівасьцю і пакутай, як гэта рабілі паэты нашаніўскай пары, але з думкамі бадзёрымі і поўнымі радасьці. Нават самая форма пісаньня песьняў гэтых зборнічкаў не зьяўляецца формай старой, клясычнай, але — новай, футурыстычнай, з якое б‘е магутнасьць і сіла, дзякуючы чаму і самая мова набіраець больш вобразаў і плястыкі. Часам адзін выраз малюе нам цэлы абраз мастацкай творчасьці. Ствараючы гэткім чынам вобразы, аўтары робяць іх сымбалічнымі, чым яшчэ больш прыдаюць прыгожасьці сваім песьням:

Пакутніцу... З ясным аблічам
Кліча
Да брацтва і згоды“.

Родзевіча вабіць сацыяльнае адраджэньне і работніцкі рух.

У сваю паэзыю ён уносіць мамэнт барацьбы.

Першы разьдзел зборнічка зьяўляецца быццам уступам. Паэт дае нам абраз Беларусі, „крыніцы страшных мук“, у якой—

„Няволі неўразумелай крыж
І непрагляднасьці туман“.

Ён заклікае Беларусь даць Голас, каб абудзіць сірот-сыноў, што „топчуць матчынае цела.“

„Крыкні-жа голасам мільёнаў
. . . . . . . . . . . .
Хай згінем мы і ўсё на сьвеце,
Толькі дай голас мая Русь Бела!“

Паэт цьвёрда верыць, што цяпер, калі Беларусь пачала адраджацца, дух яе

„Будзе жыць,
Сонцам быць!“

і ніякія халады і цямноты не перамогуць яго.

Трэці разьдзел, „Беларуская казка“, пераносіць нас у далёкую мінуўшчыну роднага краю, калі наша „безпатольная старонка“ пачала „сваё жыцьцё—стогн“

Жудасныя малюнкі паўстаюць прад нашымі вачыма, калі чытаем гэты разьдзел. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У некалькіх чародных разьдзелах бачым роспач паэта. Ён мучыцца, бо перажываньні яго вельмі вялікія. Усе крыўды і зьдзекі, што спадаюць на „шматпакутную“ Беларусь, адчуваець ён на сабе. Яго сьвядомасьць змушае яго з яшчэ большай сілай заклікаць да адраджэньня родную старонку.

Беларусь мая юнацкая,
Шалам дзікая, ўся бунтарская,
Парві путы ты чужацкія.
Будзь дзяржаўная, гаспадарская.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
„Працуй, Беларусь,
На хвалу для людзей.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Жыві Беларусь,
Каб жылі: воля, сьвет!“

Ён цьвёрда верыць, што Беларусь працоўная — несьмяротная, а той сон, з якога ўжо абудзілася наша старонка, дадаў болей моцы.

„Цешцеся, бо ноч праспалі,
Хай уцеха дасьць гарт сталі“.
„Ня тужыце Беларусы—
сон то моц“, якая прысьпешыць дзень „Вялікага Сьвята“

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У адным з апошніх разьдзелаў паэт ізноў дае абраз мінуўшчыны, але не такой, калі зямелька наша фарбавалась „крывёй бязьвіннай, людзкай, братэрскай крывёй“, а калі люд вольны быў і кіраваўся вечам і князем, калі

„...не мячом Полацак край ратаваў, —
Моцай веды сваёй Вільню ён паканаў:
З дзікіх, цёмных лясоў вывёў ворага ён,
Ў рукі сьветач ім даў, даў ім правы закон“.

Паэт чуець водгук Прыходу спакойнага часу, калі, як тады, змучаная Беларусь адпачне!..

У апошнім разьдзеле паэт прамаўляе да душы кожнага несьвядомага Беларуса і заклікае яго скінуць з сябе путы цемры і тую

глухату, да якой прычыніліся „грозныя буры“. Яго словы ня крык, а ціхі шэпт дзіцячы, што сам уліваецца ў збалелую беларускую душу. Ён ня ўжывае клічнікаў, бо будучы добрым псыхалёгам, ён зразумеў, што ціхім задушэўным голасам патрапіць забрацца ў самую глыбіню душы чалавечай і ўзбудзіць у ёй даўно забытае, дарагое, роднае.

„Спыніся, брат мой, сядзь на прызьбе маёй хаты вясковай, пахілай і дай пачуці сваё новае слова аб мудрай задуме засеянага поля, аб прарочым гомане векавечнага бору, аб нашым, блізкім, родным“...

„Там, брат мой мілы, аддыхнеш душой, падужэеш целам і праславіш музыку жыцьця“.

„Дык увайдзі. брат мой мілы, у маю хату вясковую, пахілую, а будзеш дарагім гасьцём і ўзрадуеш мяне, засмучонага ад жудаснай сучаснасьці.

Увайдзі“.

Аднак, як гэтыя зборнічкі ні падобныя да сябе, можна знайсьці ў іх шмат рысаў і розных. Перад усім бачым розьніцу ў самых поглядах аўтараў на Беларусь. Жылка у сваім зборнічку атвараець псыхічны бок беларускага жыцьця, а Родзевіч — прадстаўляець ўсё вялічча Беларусі. Момант традыцыяў мінулага—галоўныя рысы яго ўяўленьня. Ён кажа:

„Нахадзілася з свсей хаты ў прочкі.
Настаялася ў пераможцаў пры парозе.
Намадзелася нявіннай у вастрозе.
Начулася гідкіх нагавораў“.

Жылка кіруецца ў бок ідэалізму, прадстаўляючы думкі бадзёрыя і сьветлыя. Ён бачыць Беларусь уваскросшую і ўзышоўшую ўжо на мапу Эўропы. Родзевіч-жа ідзець у бок матэр'ялізму, прадстаўляючы думкі інтэлігенцыі, якая пайшла за пралетарыятам. Беларусі ўваскросшай для яго яшчэ няма. Яна будзець, а будучыня гэтая будзе сьветлая і радасная.

„Бач, сьвітаньне на прадвесьні,
Усюды гоман, льлюцца песьні,
Усход шырэець, цемра тае...
Эх, жыцьцё, сьвятло буяе!“

Жылка піша выключна формай вершаванай, а Родзевіч апрача таго — прозай паэтыцкай, даючю больш плястыкі і малюнкаў.

Абодва гэтыя зборнічкі, ня гледзячы на некатарыя рознасьці, зьяўляюцца аднак творамі новымі, нябывалымі да таго часу ў беларускай літэратуры. Выразна відаць, што аўтары гэтых зборнікаў імкнуцца да нечага новага, ствараючы гэтым новы кірунак у беларускай літэратуры, кірунак—модэрнізму.

*Ж. і Я.*



# ЯК НАМ ЛЯПЕЙ АРГАНІЗАВАЦЬ СВАЮ ВУЧОБУ

Кожнаму навапаступаючаму студэнту, у першых днёх свае навукі на унівэрсытэце вельмі часта прыходзіцца чуць ад прафэсароў: „трэба ўмець вучыцца, а тады вынікі вашае працы прынясуць належную карысьць“. Дзіўнымі здаюцца на першы пачатак гэтыя словы. Кончыць гімназію, дастаць матуру і не навучыцца, як трэба вучыцца? Няўжо гэта праўда? — пытаеш сябе. Аднак, гэтак ёсьць запраўды. Чаму? А таму, што сыстэма навучаньня ў унівэрсытэце зусім іншая, як у гімназіі. Ня будзем тут затрымліваццца на сыстэмай навучаньня ў вышэйшых школах, бо яе ўсякі навапаступаючы ў працягу некалькі дзён пазнае сам.

Кожнаму навапаступаючаму студэнту, у першых месяцах свае вучобы на унівэрсытэце прыходзіцца балей слухаць, чым чытаць ці працаваць у лябараторыі. І гэта зусім правідлова. Выклады ўводзяць у курс працы; выклады даюць пэрспэктыву; выклады часта захапляюць прадметам, а гэта так важна таму. што пажаданых вынікаў працы можна чакаць толькі тады, калі любім сваю працу.

Але ці ўмеем мы слухаць?

Ня хочучы крыўдзіць сваіх студэнтаў, тым ня менш адказываем: не, ня ўмеем. Гэтаму трэба вучыцца.

Гэты артыкул мае на мэце, паколькі магчыма, памагчы нашаму студэнству ў гэтай працы.

Правідловая арганізацыя слуханьня падзяляецца на тры аснаўныя мамэнты:

1. Падгатоўка да слуханьня.
2. Безпасярэдняе ўспрыняцьце выкладанага матар‘ялу.
3. Замацаваньне вынікаў праслуханага.

## 1. Падгатоў а да слуханьня

Падгатоўка да слуханьня мае вялізарнае значаньне: 1) яна аблягчаець самы працэс успрыняцьця матэр'ялу: лягчэй слухаць, калі ты хаця крыху знаём з тым, што выкладаець прафэсар. 2) Яна актывізуе: ты ўжо не пасыўна чакаеш што скажа прафэсар, а запытваеш, спраўджаеш, крытыкуеш разумова. 3) Яна памагаець балей прысвойваць: чым лягчэй ты ўспрыймаеш слуханае, тым балей ты прысвойваеш. 4) Яна памагаець сканцэнтравацца на рэчы.

Падгатоўка да слуханьня можа ісьці па дзьвёх лініях. 1) па лініі стараннага вывучэньня матэр‘ялу, які ты дапушчаеш пасьля праслухаць у форме выкладу; 2) па лініі азнаямленьня з тэзамі ці плянам будучага выкладу.

Першы спосаб вельмі карысны ў выпадку, калі ты старанна прабляеш якое колечы пытаньне і дзеля гэтага пастанавіў праслухаць не адзін эпізадычны выклад, а цэлы цыкл выкладаў. Часьцей другіх гэтым спосабам павінны карыстацца нашы студэнты і слухачы кур-

саў, у якіх разам з другімі мэтадамі застасоўваецца і выкладовая сыстэма заняткаў. Каб найболей рацыянальна выкарыстаць гэты спосаб, неабходна пазнаёміцца з праграмай усяго цыкла выкладаў аб даным пытаньні і даведацца, якімі кнігамі і другімі навуковымі дапамогамі трэба запасьціся, каб у агульнасьці і суцэльнасьці пазнаёміцца з іх зьместам.

Дабраўшы падыходзячыя дапамогі, карысна прачытаць матэр'ял, які ахапляець увесь курс, увесь цыкл выкладаў—гэта дасьць агульнае панацьце, але дзеля глыбейшае апрацоўкі зьместу выкладаў гэтага мала: неабходна яшчэ прыгатаўляцца да кожнага выкладу асобна. Дзеля гэтага, карыстаючыся праграмай, дабіраем з кніжак тыя разьдзелы і старонкі, якія ахопліваюць тэму сяньняшняга выкладу перад усім і апрацоўваем іх.

Прарабляючы кніжны матэр'ял да выкладу, карысьней за ўсё адкрэсьляць, ці падкрэсьляць у сярэдзіне зьместу аснаўныя думкі, факты, супярэчнасьці, альбо конспэктаваць: накідаць плян, тэзы даборкі фактычнага матэр'ялу.

Пры гэтакім спосабе апрацоўкі матэр'ялу слухач атрымоўваець магчымасьць ня проста слухаць прафэсара і прыймаць на веру ўсё што ён скажа, а спраўджаць яго, параўноўваць сказаныя ім думкі і факты з думкамі і фактамі, знаходзячыміся ў кнігах, а гэта г в а р а н т у е максымальнае прысваеньне праслуханага.

Але не заўсёды ўдаецца такое стараннае прыгатаўленьне да слуханьня. Тады добра выкарыстаць другі мэтад прыгатаўленьня — запабежнае знаёмства з тэзамі выкладу. У ўнівэрсытэце тэзамі часьцей ўсяго зьяўляюцца заданьні для лябараторных, ці сэмінарных заняткаў. Заданьне паказваець, што і як апрацаваць; часам даюць і пытаньні; гэтыя пытаньні і можна разглядаць, як свайго роду тэзы

Запабежнае знаёмства з тэзамі пытаньнямі заданьня, якія, кажучы, часьцей усяго даюцца, як пункты пляну. адыгрываець такую-ж ролю, як знаёмства з назовам кнігі перад яе прачытаньнем. Яно даець агульнае прадстаўленьне аб зьмесьце выкладу, памагаець сачыць за ходам думак прафэсара; паказваець пункты, дзе прафэсар пераходзіць да другое часткі свайго выкладу, а ў агульнасьці значна аблягчаець працэс успрыняцьця і фіксацыі.

З а п а б е ж н а е знаёмства з тэзамі карысьней зя ўсё вясьці гэткім шляхам: прачытаўшы назоў выкладу, самастойна зазначаеш тэзы ці хоць найгалаўнейшыя пытаньні яго, пасьля параўноўваеш свае тэзы з тэзамі прафэсара і адразу схапляеш агульны зьмест і напрамак выкладу.

Застаецца адказаць яшчэ на адно пытаньне: ці варта траціць час і сілу, каб самому вызначаць тэзы і параўноўваць іх з тэзамі прафэсара, альбо ў думках разьвіваць тэзы прафэсара раней, чым гэта зробіць ён сам, — „усёроўна-ж вынікі будуць самыя нязначныя“.

Але, па першае, мы часта самі ня ведаем таго, як шмат мы ведаем у даным пытаньні і толькі, пачаўшы ў думках падрыхтоўваць навочныя думкі і факты, мы ўстанаўляем успрыняты матэр'ял, а падругое, самы працэс падрахоўваньня маець вялізарнае значаньне ў сэнсе запабежнага будучага працэсу ўспрыняцьця матэр'ялу.

## 2. Арганізаваньне працэсу слуханьня

Дзеля таго, каб балей правідлова арганізаваць працэс слуханьня, неабходна з пачатку акрэсьліць, з якіх мамэнтаў складаецца гэты працэс.

Мы слухаем прафэсара і раней за ўсё ўспрыймаем рад думак і фактаў, якія ён нам падаець (гэта першы мамэнт).

Але гэтыя думкі і факты ня проста адкладваюцца ў нашай сьвядомасьці, як у якім схове. Раўналежна з працэсам успрыняцьця думак і фактаў ідзе працэс, — калі можна гэтак сказаць,—ўнутранага рэагаваньня на гэтыя думкі і факты (гэта другі мамэнт).

Выкладчык выказаў тую ці іншую думку, даў той, ці іншы факт, а мы, слухаючы, рэагуем: „Зусім правідлова".—„Так і ў кнізе."—„Неправідлова".—„Практыка маёй працы поўнасьцю сьцьвярджае факты прафэсара". — Трэба будзе спраўдзіць у сябе на працы". — „Ці-ж так?" — „Ня можа быць". — „Зусім усё ясна". — „Нічога незразумелага..."—і г. д. і г. д.

Пералічаныя думкі (некаторыя э іх паўсталі ў нашай сьвядомасьці, як вынік першай і надта сьпешнай апрацоўкі таго матэр'ялу, які падаў нам сам прафэсар) могуць яшчэ зьмяніцца, але самае іх зьяўленьне па асацыяцыі — у сувязі, па шчапленьню з думкамі прафэсара, зьяўляецца вельмі важным мамэнтам у працэсе ўспрыняцьця.

Дык вось, мы ўжо адзначылі два аснаўныя мамэнты працэсу слуханьня: мамэнт успрыняцьця чужых думак і фактаў і мамэнт адпаведнага рэагаваньня на гэтыя думкі і факты з боку слухача. Але поруч з-гэтымі двума мамэнтамі працякае і трэці. Слухаючы прафэсара, мы-ж цікавімся ня толькі тым, што ён нам даець, але і тым, як ён падносіць свой матэр'ял: мы сачым за выразам твару прафэсара, яго рухамі і манерай гаварыць, — гэта, можна сказаць, з вонкаввга боку. Але нас цікавіць і ўнутраны бок: як прафэсар строіць свой выклад — індуктыўна ці дэдуктыўна, канцэнтрычна, ці паступова, на што ён імкнецца ўплысьці — на пачуцьці, ці на сьвядомасьць, ці ён агітуець, пераконваець, пужаець — адным словам нас цікавіць мэтад будовы выкладу (гэта—трэці мамэнт).

Выходзячы з гэтых трох складнікаў, уваходзячых у працэс слуханьня і трэба арганізаваць самае слуханьне.

Перш наперш трэба дабіцца максымальнага скупленьня ўваті, каб аддаліць адводзячыя цябе ў працэсе слуханьня пабочныя думкі, дзе часта мала праяўленьня сілы волі: тут патрэбныя некаторыя мэтады вонкавага парадку. Да такіх належыць:

1) Спраўджаньне прафэсара па раней апрацаваным матэр'яле (аб гэтым мы ўжо гаварылі вышэй).

2) Уважныя нататкі з выкладу ў працэсе слуханьня.

Тут мы пераходзім да чацьвертага мамэнту працэсу слуханьня— да запісваньня слуханага.

## Запісваньне слуханага

Дзеля таго, што працэс запісваньня слуханага зьяўляецца найважнейшым і для штодзеннай працы студэнта, мы аб гэтым мамэнце пагаворым больш падрабязна.

Раней за ўсё слухача цікавіць гэткае пытаньне: калі пачаць запісваць слуханае, зараз-жа, як толькі прафэсар пачаў сваю мову (ці новы разьдзел з свае мовы), ці пачакаць, пакуль ён ня скончыць якую-колечы азначаную частку свае мовы, і тады ўжо пачаць запісваць?

На гэтае пытаньне неабходна адказаць так: як, чытаючы кнігу, мы ня ўстане зразумець і прысвоіць асобнай часткі з яе, пакуль не прачытаем да канца, так і слухаючы выклад, мы ня можам прысвоіць асобнай яго часткі, пакуль прафэсар не давядзець лёгічна да канца, ня выкажа яго суцэльнасьць.

Дзеля таго запісваць за прафэсарам яго мову належыць не адразу, як-бы схопліваючы яго паасобныя словы, а трэба пачакаць, пакуль ён не закончыць даную частку мовы, і толькі пасьля гэтага трэба яе каротка запісаць.

Гэта карысна таму, што прафэсар часта паўтараець сказы і, запісваючы за ім усё па парадку, мы можам адну і тую самую думку запісаць некалькі разоў. Наша прапанова выклікаець пытаньне і недаверра.

Пытаньне. Як-жа пазнаць, дзе канчаецца адна і пачынаецца другая частка мовы прафэсара?

Адказ 1. Часта сам прафэсар падаець да ведама, што ён пераходзіць да наступнай часткі свайго выкладу: „Дык вось мы адказалі на трэцяе пытаньне — пераходзім да чацьвертага“. 2. Часам мы па інтанацыі можам пазнаць, што прафэсар зблімаецца да канца данай часткі выкладу. 3. Вельмі часта лёгіка паказваець нам канец і пачатак паасобных частак мовы. 4. Таксама шмат нам можа даць запабежнае знаёмства з тэзамі ці запытаньнямі прафэсара: зьлічваючы друкаваныя пытаньні і пункты пляну ў думцы з загалоўкамі думак, акрэсьліваем, што прафэсар скончыў адзін разьдзел і перайшоў да другога.

Недаверра. Калі запісваць зьмест данай часткі выкладу не тады, калі прафэсар выкладаець, а хутка пасьля выкладу, дык што-ж зрабіць з наступнаю за ёю часткаю? Прафэсар-жа не чакаець.

Вызсьняем. Па-першае, нашу прапанову трэба разумець не літаральна. Мы гаворым аб тым, што не карысна пачынаць запісваць слуханае, як толькі прафэсар пачаў свой выклад, дзеля таго, што першыя гры—пяць мінут прафэсар „робіць як-бы размах“, гаворыць зазвычай не на тэму. Мы ня радзім пачаць запісваць данага разьдзелу выкладу зараз-жа пасьля таго, як да яго перайшоў прафэсар, дзеля таго, што большасьць прафэсараў з пачатку толькі назначаюць думку, пасьля разьвіваюць яе і ўрэшце падрахоўваюць. Найкарысьней, значыцца пачаць запісваць пад канец, калі прафэсар каротка паўтараець усё сказанае. Але, ведама, ўсё гэта не зьяўляецца законам,

праз каторы ня можна праступіць. Калі вы пачулі, што схапілі думку прафэсара, няхай гэта будзе спачатку данага разьдзелу, ці ў сярэдзіне, зараз-жа каротка яе запішэце; асабліва гэта датычыць лічбаў, дзеля таго, што лічбовыя даныя часьцей усяго не паўтараюцца. Падругое, запісваньне адбываецца і павінна адбывацца ў некалькі разоў хутчэй, чым выкладаньне, не дзеля таго, што мы пішам хутчэй, чым прафэсар гаворыць (тут якраз наадварот), а дзеля таго, што мы запісваем толькі найгалаўнейшае, ды і то—скарочана.

Дзеля таго, каб каротка запісваць слуханае ня трэба абавязкава ведаць стэнаграфію — наадварот, карыстаньне стэнаграфіяй як гаворыць досьлед, часта шкодзіць студэнту: ён аддаець вельмі шмат увагі запісваньню і меней, чым гэта патрэбна, сачыць за думкаю прафэсара, ён зусім не перажываець эмоцыяльна выкладанага, а гэта вельмі важна нават у працэсе слуханьня, „няцікавых“ выкладаў па інтэгральнаму вылічэньню.

Адным словам, пры карыстаньні стэнаграфіяй выходзіць штось падобнае да працэсу працы напрактыкаванай машыністкі, якая можа зусім правідлова перадрукаваць цэлую кнігу, не зразумеўшы нічога па сутнасьці і не злавіўшы ні на — ёту ўсяе прыгожасьці стылю кнігі, Не стэнаграфія патрэбна студэнту для рацыянальнага запісываньня; але скарочанае запісываньне не павінна быць скарочаньнем паасобных выразаў — замест каторы: к., замест абавязкава: абв., замест міліярд: млрд. і г. д. і т. д., але павінно быць скарочаньнем зьместу слуханага. Ня трэба запісваць думкі прафэсара ў суцэльнасьці, а даць толькі зарыс гэтае думкі, зусім ня трэба запісваць цытатаў, якія прыводзіць прафэсар, а трэба толькі адзначыць у каго і адкуль яны узятыя. (Калі прафэсар гэтага не паказваець, трэба яго папрасіць аб гэтым падчас выкладу, ці ў яго канцы).

Але самае галоўнае, што даець скарочэнае запісваньне, гэта — старанны агляд матэр'ялу для запісваньня. Прафэсару падчас яго выкладу ўсяго трэба — і падставовыя, і дапаўняючыя думкі, і галоўныя і пабочныя факты, і ясныя абразы і лёгка запамінаны прыклад, і разумны анэкдот, і дарэчны жарт, і нават проста ўсьмешка — усё гэта разам творыць тую суцэльную будову, якую ён часта сам зачараваны нясець сваім слухачам. А слухачу патрэбны, выразьней кажучы — слухачу трэба запісаць толькі падставовыя думкі, толькі падставовыя факты, толькі схэму раскрыцьця доказаў, толькі вехі, формулы і толькі ў рэдкіх выпадках — яркія абразы і пераконываючыя прыклады.

## Замацаваньне вынікаў праслуханага

Але, ведама, гэткае скарочанае запісваньне не перадасьць і падставовага, сказанага прафэсарам. Гэта нават не канспэкт, бо канспэкт прадстаўляець штось упарадкаванае, закончанае, тут-жа толькі штрыхі, толькі ўрыўкі Чаму? А таму, што тры чацьвертых таго, што сказаў прафэсар, зафіксавана намі не на паперы, а ў сьвядомасьці. Дык вось-жа, на гэты матэр'ял, часова застаўшыйся ў нашай сьвядо-

масьці, зьвязаны з нашым запісваньнем тонкімі, рвучыміся ніткамі, трэба зьвярнуць вельмі паважную ўвагу. Калі яго зараз-жа не замацаваць, то тонкія ніткі абарвуцца, а сам ён зьнікне. Але як-жа яго замацоўваць?

Тут мы пераходзім да пытаньня аб наступаю ым замацаваньні вынікаў праслуханага. Вылажым гэты разьдзел у форме некалькіх паасобных тэарэмаў.

1) Замацаваньне праслуханага павінна пачацца зараз-жа; найляпей тут-жа пасьля выкладу пайсьці ў чытальню, ці адпаведны кабінэт і адразу ж узяцца за працу; у скрайным выпадку гэта трэба зрабіць увечары; адкладаць замацаваньне праслуханага на нядзелю ці калядныя сьвяты, — гэта значыць займацца шкодным самаашуканствам.

2) Замацаваньне павінна ісьці па лініі разборкі запісак, дапаўненьня іх матэр'ялам, які застаўся ў сьвядомасьці і шляхам дапаўненьня апрацоўкай адпаведнай літэратуры. Шкадаваць часу на ўсё гэта ніколі ня трэба. Толькі хуткая, старанная апрацоўка і скарочанае запісываньне кожнага праслуханага выкладу сапраўды дадуць суцэльны абраз прадмету і веды; перадкаляквіяльнае каваньненя варта ні граша. (Працяг будзе) *X.*

# АДКАЗ

Зьяўленьне „Вольнае Думкі“, як і трэба было чакаць, выклікала жывое ўражаньне у беларускім грамадзянстве. Беларуская паступовая моладзь выявіла гэтым своё істнаваньне, паказала ў вочы беларускаму грамадзянству, што ўгадова шавіністычная група, якая задавала тон „Студэнскай Думцы“, ня можа лічыцца рэпрэзэнтацыяй ўсяго беларускага студэнства. Дзеля гэтага зусім зразумелай зьяўляецца тая шалёная траўля, якую паднялі угадова-шавіністычныя колы супроць нашай часопісі і беларускага паступовага студэнства наагул. Шавіністы ў гэтым змаганьні карыстаюцца ўсялякімі сродкамі, а прадусім бруднай і бязсаромнай хлусьнёй. Такімі зьяўляюцца зацемкі (праўдападобна, аднаго аўтара) у № 5 „Народу“ ды ў апошнім нумару „Студэнскай Думкі“.

У гэтых зацемках з аднаго боку мы бачым імкненьне здэградаваць сэнс падзелу ў Бел. Ст, С., тлумачучы яго „асабістымі непаразуменьнямі“ паміж намі і большасьцю (ці ня прыпадковай?) сяброў Б.С.С.; закідваецца паступоваму студэнству, быццам яно зьяўляецца чужым і толькі прыпадкова зьявілася ў Б.С.С., ды й зусім сьвядома перакручваецца прабег Агульнага Сходу, 26 траўня 1929 г. Ня варта было-бы паўтараць усіх тых закідаў, ў родзе таго, што „паступовыя студэнты ня ўмеюць пісаць“, да такое ступені яны зьяўляецца сьмешнымі й глупымі. Заўважым толькі яшчэ раз, што „паступовыя студэнты вядуць барацьбу не за асобы, але за ідэалёгію, што да іх

належыць не 5 „завешаных“ асобаў,—але ўсе, стаячыя на грунце народна-вызваленчага руху, што сьцьвярджаецца як подпісамі у № 1 „Вольнае Думкі“, так і прыступленьнем часткі маладых сяброў Б.С.С. да паступовае групы. Ды й ўсялякія спробы збагаталізаваць ўсю справу павінны атрымаць належную паражку. Нават самы аўтар вышэйназваных зацемак бачыць гэга, калі радам з падобным прадстаўленьням справы, закідаець паступовым студэнтам „інтарнацыянальную ідэалёгію“ ды імкненьне выкарыстаць беларускую справу „для іх „вышэйшых“ мэтаў“. Вельмі дзіўна! Для тых панкоў, якія прызвычаіліся нацыянальна-вызваленчы рух бачыць толькі ў сьляпым шавінізме — мы, бязумоўна, інтарнацыяналісты, бо думныя з таго, што мы стаім як грамадзяне людзкасьці ў радох клясава-вызвольнай барацьбы сялян і работнікаў. Але, цікаўна, як асобна ад цэлага сьвету аўтар вышэйшых зацемак прадстаўляе вызваленьне Беларусі? Ці не праз сваю згодніцкую „апалітычнасьць“? Да якога бязмернага засьляпленьня і да якой бязмернай подласьці можа давесьці людзёў сьляпы, вузка зразумелы нацыяналізм!

Яшчэ адзін цікавы мамэнт! Паступовыя студэнты ў вышэйназванай зацемцы названы „буржуямі“ дзеля тае ахвярнасьці, з якою яны прыступілі да выданьня „Вольнае Думкі“. Толькі тыповы мяшчанскі крэтынызм мог насунуць аўтару думку, што ўсе, ахвяруючыя мо‘ апошнія свае грошы для работніцкай справы — належаць да буржуазіі, і кожны павінен толькі ўсьмяхнуцца, бачучы бязмежную глупасьць падобных людзёў.

# ХРОНІКА

## „СТУДЭНСКАЯ ДУМКА“.

У лістападзе г.г. выйшаў з друку новы (12) нумар „Студэнскае Думкі“. З гэтага нумару адразу кідаецца ў вочы духовая беднасьць таго кірунку беларускага студэнства, якое прадстаўляе сабою гэтая часопісь. Зьмест яе галоўным чынам пасьвячаны двум юбілеям — 10-м угодкам сьмерці Івана Луцкевіча і 400-м угодкам Літоўскага Статуту. Першым угодкам пасьвячаецца вялікшы артыкул Ст. Станкевіча і некалькі вершаў. Ўва ўсіх іх адчуваецца нейкая шаблёновасьць, паўтарэньне даўно перажытых матываў і, як такія, ня могуць яны быць цікавымі. Так сама поўны паўтарэньнем агульных мейсцаў артыкул М. Шкелёнка, пасьвячаны юбілею Літоўскага Статуту. Што датычыць рэшты зьместу „Студэнскае Думкі“—ён яшчэ бяднейшы. З вершаў А. Бартуля б‘е прымушанасьць, бо ці-ж можа быць шчыраю паэзыя „прыдворных бардаў“. Адчуваецца нястача натхненьня і шчырасьці ўва ўсіх вершах, пасьвячоных традыцыйным, ізбітым тэмам. Можа адзі-

ным выняткам з гэтае сумнае нізкі аднастайных вершаў будзе хіба верш „Ідзе“, дзе незалежная тэма не змушала паэта быць няшчырым і хваліць сваіх гаспадароў. Наагул, аднак, мусім прызнаць у А. Бартуля заняпад ягонае паэтыцкае творчасьці.

Рэшта рэчаў, як танны патэтызм С. Сарокі ці артыкул Ст. Каліны, стоячы на роўні школьных выпрацаваньняў ня заслугоўваюць понад менаваньне.

Зьвернем увагу на бок ідэалягічны. Адразу можам пабачыць поўнае адарваньне ад народных гушчаў, імкненьне да стварэньня нейкай каставай інтэлігэнцыі, якая займалась бы праблемамі ня маючымі сувязі з шырокім жыцьцём народу. Паўтараюцца такія памылкі, ў якія ня верыць цяпер ужо нават буржуазная навука. Паводле думак нпр. Ст Станкевіча гісторыя сучаснага беларускага руху—гэта гісторыя жыцьця Івана Луцкевіча. Надаваньне такога вялікага значэньня ў масавым руху адзінцы, ў дадатку яшчэ — не зьменшаючы культурных заслугаў Ів. Луцкевіча — адзінцы далёка не геніяльнай — зьяўляецца тыповым цяпер ўсюды—для пэўных колаў буржуазнага грамадзянства.

Пасьвячаецца шмат увагі Літоўскаму статуту і няма ані ўзьменкі аб тым аграмадным разыходжаньні, якое ёсьць паміж шляхоцкай культурай Літоўскага статуту і новай пралетарскай культурай сучаснае Беларусі. Між тым гэтае разыходжаньне так кідаецца ў вочы, што навет мімамолі зьяўляецца пытаньне, што мае супольнага Беларускі працоўны народ са сьвятам беларускае шляхты, якая, як толькі гэта ёй стала ручней, адыйшла ад беларускае культуры і прылучылася да польскае?

Культура беларускага працоўнага народу ня можа мець нічога супольнага з гэтымі старымі шляхоцка-мяшчанскімі романтычнымі лятункамі.

Як падае „Бел. Крыніца“ у N 37 з дня 16. XII. 29 г. заметцы, якую ў цэласьці зьмяшчаем: „Наперад“ — орган беларускай санацыі (палёнафіляў). Кучка віленскіх беларускіх палітычных банкротаў на чале з выдатным прахадзімцам палітычных арыентацыяў Антонам Луцкевічам, атрымаўшы цяпер спадчыну па вядомых палітычных нябошчыках: Аляксюку. Валэйшу, Паўлюкевічу, Вярнікоўскім, Умястоўскім і інш. палянафілах, пачала выдаваць сваю часопісь пад назовам „Наперад“. Першы нумар гэтай часопісі паказаўся ў сьвет 12 г. м. і адразу запахнуў дэфэнзыўным даносам і прытым няўдалым“.

Ад сябе мусім дадаць, што паны з „Белар. Крыніцы“ таксама займаліся і займаюцца дэфэнзыўнымі даносамі на беларускі адраджэнскі рух, як і цяперашнія палітычныя шпікулянты на чале з Луцкевічам і Астроўскім.

У гэтых абодвых „кірунках“ абсалютна жадных ідэлёгічных разыходжаняў няма, а толькі „барацьба за костку“... Яны-ж разам закручваюць „гайку“ беларускага працоўнага адраджэньня.

Летам г.г. выйшаў з друку г. зв. „Беларускі Лемантар“ Ст, Любіч Маеўскага, які быццам мае быць ўправоджаны як аба-

вязковы ўва ўсе урадовыя беларускія школы. Аб істотнай вартасьці гэтага „Лемантара“, друкаванага лаціна-польскай абэцэдаю і маючага вельмі шмат памылак, могуць даць прадстаўленьне наступныя словы Ул. Самойлы, ўзятыя з артыкулу ягонага „Skandaliczny elementarz“, друкаванага ў N 18—19 „Przeglądu Wileńskiego“ і выйшаўшага пасьля асобнай адбіткай:

„Агранічымся толькі ацэнкай гэтага першага прадукту „новага курсу польскае палітыкі ў стасунку да Беларусоў“ з пункту гледжаньня выдавецкай тэхнікі, ягонай пэдагагічнай вартасьці, а такжа цэлёвасьці гэтага роду прадпрыняцьця з пункту гледжаньня гэнай „новай эры“ ў польска-беларускіх адносінах.

„Заглядаючысь з гэтае стараны на выданьне „Лемэнтара“ і ўвядзеньне яго як абавязковага школьнага падручніка, ня можам інакш лічыць гэты факт, як толькі за нячуваны, нябывалы скандал.“

Ў апошнія часы беларуская прэса ўсіх кірункаў пасьвячае шмат увагі праводзячайся ў Б.С.Р.Р. барацьбе з г. зв. нацыялдэмакратызмам.

Дыфэрэнцыяцыя беларускага жыцьця павінна была адасобніць тыя групы, якія далучыўся да агульнага будаўніцтва Радавае Беларусі, не парвалі аднак сувязі са старой нацыяналістычнай ідэалёгіяй. Ідэалам нацыял-дэмакратаў было не аб'яднаньне і салідарнасьць працоўных ўсяго сьвету, але нейкае адасабненьне, аддзяленьне Радавай Беларусі ад іншых рэспублікаў Радаваго Саюзу. Імкненьне гэтае вынікла з культу нацыі, якому не павінна быць мейсца ў будучым сацыялістычным грамадзтве, бо-ж сацыялізм імкнецца знівэляваць дзелючыя людзей нацыянальныя рожніцы.

Адзіным лягічным вынікам з так памылкова ўзятай сацыялістычнай ідэалёгіі будзе злучэньне нацыянальных дэмакратаў з буржуазіяй свае краіны, супроць працоўных гушчаў іншых земляў. Дык зусім зразумелай зьяўляецца тая небясьпека для Радавай Беларусі, якую прадстаўляе гэты нацыянал-дэмакратычны рух.

На Беларусі асаблівыя палітычныя варункі жыцьця дапамагалі разьвіцьцю нацыянальна-дэмакратычнае ідэалёгіі. Дык ня дзіў, што да яе аказаліся належачымі шмат якія выдатныя асабістасьці. Ў ліку якіх — мусім на жаль адзначыць—некалькі прафэсараў Менскага унівэрсытэту (Шчэкацікін, Гарэцкі і інш.).

## З СТУДЭНСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Г. зв. „Урад“ Б. С. С., рэпрэзэнтуючы фактычна толькі меншасьць—санацыйную частку беларускага студэнства — на чале з „ведамымі“ „санатарамі“ М. Шкялёнкам, С. Станкевічам, С. Сарокаю і А. Бартулём—выступаець аднак заўсёды ад імя ўсяго беларускага студэнства, ладзіць ад імя яго санацыйныя акадэміі, а нават зьбіраецца пасылаць сваіх (пэўнаж вызначаных дыктатарскім „Урадам“, а ня выбраных сходам) дэлегатаў на маючы адбыцца ў Празе зьезд А.Б.С:А. Гэтым ад імя ўсяго студэнства, не згаджаючагася

з падобнымі, дадзенымі сабе „Ўрадам" „паўнамоцтвамі" пратэстуем супроць падобных выступленьняў пэўнае групы ў іменьні ўсяе арганізацыі.

## З БАНКЎ

Банк падаець наступнае спраставаньне: — грошы былі атрыманы з судовага дыспозыту — 1 частка—13 ліпня 1929 году — у суме 3467 зл. 72 гр., 2 частка па Глыбоцкаму аддзелу—была атрымана 16 лістапада 1929 году — у суме 1676 зл. 50 гр., якія былі ў свой час пасьля гэтага выпазычаны сялянам. Тады калі падае санацыйны ворган палітычных спэкулянтаў (Луцкевіча, Астроўскага) „Наперад", што атрыманы грошы з дыспозыту суда у сучасны мамэнт і банк можа удзяляць пазыкі сялянам, проці чаго як сьвядомай маны пратэстуе Беларускі Каапэратыўны Банк. Пажадана, каб грамадзяне прыйшлі з дапамогай Бел. Каап. Банку, ўносячы туды дробныя ашчаднасьці, і роблючы ўклады.

## АРЫШТ ВУЧНЯЎ В. Б. Г.

7 сьнежня г. г. адбыліся цывільныя хаўтуры б. грамадаўца, беларускага работніка Ю. Юхна. Пасьля хаўтуроў адбылася дэманстрацыя, ў выніку якое арыштавана было 46 асобаў, ў тым ліку радны м. Вільні Дзідзюль, працаўнічка беларускае каапэратывы „Новы Сьвет" Ст. Туркевічанка і 6 вучняў Б.В.Г. Чатырох з арыштаваных звольнілі на другі дзень, пасьля праз два тыдні былі звольнены яшчэ 12 асобаў, ў тым ліку С. Туркевічанка і 5 вучняў В.Б.Г. Рэшта—у тым ліку вучань 6 клясы С. Скурка—дагэтуль сядзяць у вастрозе.

## З ЖЫЦЬЦЯ ТАВ. БЕЛ. ШК.

У Слоніме 1 сьнежня г.г. меўся адбыцца паветовы зьезд Тав. Белар. Шк., але пан староста слонімскі даў дазвол на зьезд у апошні мамэнт і паставіў варунак, што на зьезьдзе маюць права быць выбранымі толькі асобы незачыняных і незавешаных гурткоў, і дзеля гэтага зьезд не адбыўся.

3-га сьнежня адбыўся ў Вільні сход цэнтр. гуртка Т. Б. Ш., на якім быў выбраны наступны Урад: А. Вярбіцкі, А. Лябедзкая, К. Шырмава Пяткун, М. Скурчанка. Было пастаноўлена адчыніць курсы для неграматных, аднавіць бібліятэку, ладзіць лекцыі, рэфэраты і спэктаклі.

## ШЛЯХ МОЛАДЗІ

Ворган беларускіх клерыкалаў „Шлях Моладзі", выказываючы заўсёды сваю „апалітычнасьць", гэтым самым ўводзіць ў заблудджэньне працоўныя масы моладзі. Каля гэтай часопісі арганізуецца таварыства пад назовам „Будучыня", аб якой ў будучыне падамо болей вестак.

## „БУЧНЁЎСКІ ЗВОН"

У апошнія часы выйшаў „ворган вучнёў беларускай гімназіі" „Вучнёўскі Звон". Гэты журнальчык зьяўляецца новай афэрай палітычнага спэкулянта Астроўскага, ўносячага такім шляхам дэзарганізацыю, і жадаючага агідна перакупіць беларускую вучнёўскую моладзь.

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Нядаўна ў Беластоку заргані-завалася новае беларускае выдавецкае капаэратыўнае таварыства „Рунь", якое прыступіла

ўжо да выдаваньня кніжак. У Вільні Таварыства „Рунь“ мае ад 1 студня 1930 г. адчыніць уласную кнігарню пры Вастрабрамскай 18.

## Паштовая скрынка

*Хв. Кавалевічу.* „Авадзень“ цяпер ня выходзіць, а рэдакцыі ягонай мы ня ведаем. Пасылаем вам № 2 „Вольнае Думкі“ Пішыце караспандэнцыі з вясковага жыцьця, ў меру магчымасьці будзем зьмяшчаць.

*Мірскай Акружнай Управы Т. Б. Ш.* і ўсім іншым, прыслаўшым грошы на выдавецтва. За прысланыя грошы складаем шчырую падзяку. „Вольная Думка“ ў будучым хоча больш пасьвяціць увагаў правінцыянальнаму жыцьцю, ў чым спадзеемся падтрыманьня з боку нашых чытачоў шляхам прысыланьня вестак і карэспандэцыяў. Тое гарачае учасьце, якое мы сустрэлі на вёсцы у сваёй працы, даець нам надзею на пасьпех у будучыні.



Рэд-выд. ВЯЛЕЦКІ. Літэрамі У. Знамяроўскага. Друк „ZORZA“ Віленская 15.

Вышли только два номера

